*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*

Якуб КОЛАС

**№ 20 (1833)**

Чацвер , 5 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -1...+1, дождж, уначы — 0...+2,без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +8...+10, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — -1...+1, снег; у Гомелі ўдзень — -1...+1, дождж, уначы — -1...+1, снег; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -1...+1, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Высокія камунальныя плацяжы прывялі людзей на мітынг

У мінулую нядзелю ў Гомелі каля Палаца таварыства глухіх на вуліцы Юбілейнай адбыўся дазволены гарвыканкамам мітынг пратэсту супраць павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі. У ім прынялі ўдзел і выступілі лідэры народнай кааліцыі **"ПЯЦЁРКА ПЛЮС"**: старшыня ПКБ — **Сяргей КАЛЯКІН,** кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА,** намеснік старшыні партыі БНФ **Юрый ХАДЫКА,** прадстаўнік Беларускай партыі працы **Віктар КАЗЛОЎ.**

Мітынг праходзіў пад лозунгамі: "Не — палітыцы збяднення працоўных", "Не — росту тарыфаў на камунальныя паслугі".

Прамоўцы адзначалі, што цяперашняя сітуацыя вымушае аб'ядноўвацца. Нізкія заробкі і непамерна высокія камунальныя плацяжы паставілі людзей на мяжу выжывання. Многія маладыя спецыялісты пакідаюць Беларусь і сваёй працай папаўняюць пенсійныя фонды замежных краін. Толькі ў Бельгіі, паводле звестак АГП, жыве каля 6 тысяч беларускіх імігрантаў.

У прынятай рэзалюцыі мітынгоўцы запатрабавалі ад улад шукаць крыніцы папаўнення бюджэту ў эканоміцы, а не ў кішэнях насельніцтва.

Прапанавана таксама за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў устанавіць у кватэрах лічыльнікі вады, газу, не дапускаць камунальных пабораў за неаказаныя паслугі.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ.**

## Лідэры «5+» прынялі зварот «Хочам ведаць праўду!»

Лідэры Народнай кааліцыі "5+" на чарговым пасяджэнні прынялі зварот да Аляксандра Лукашэнкі "Хочам ведаць праўду!".

У ім, у прыватнасці, зазначаецца, што "сёлета спаўняецца пяць гадоў з дня ажыццяўлення самых жудасных злачынстваў у гісторыі сучаснай Беларусі — выкраданняў былога віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара, экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі, бізнесмена Анатоля Красоўскага, і чатыры гады, як выкрадзены тэлеаператар Дзмітрый Завадскі".

"Гэтыя вельмі цяжкія злачынствы супраць чалавечнасці наносяць істотны ўрон міжнароднаму прэстыжу Беларусі, — гаворыцца ў звароце. — На жаль, за гэтыя гады ўлады і праваахоўныя органы не прад'явілі сваякам выкрадзеных грамадзян, грамадскасці краіны пераканаўчых доказаў эфектыўнага расследавання злачынстваў. Больш таго, ёсць усе падставы сцвярджаць, што ўлады зрабілі ўсё для таго, каб расследаванне "гучных" спраў не мела поспеху. У перыяд прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў незалежнай прэсе былі апублікаваны копіі дакументаў, дзе ўказвалася на датычнасць высокапастаўленых чыноўнікаў да арганізацыі выкраданняў апанентаў улады. Гэта пацвярджаюць і паказанні цэлага шэрагу сведак і былых работнікаў праваахоўных органаў".

Лідэры "пяцёркі" настойваюць на стварэнні незалежнай камісіі па расследаванні дадзеных злачынстваў з удзелам міжнародных экспертаў і спецыялістаў.

"Адсутнасць дзеянняў з Вашага боку, — звяртаюцца яны да Аляксандра Лукашэнкі, — не можа разглядацца інакш, як асабістая зацікаўленасць у нераскрыцці дадзеных злачынстваў і паставіць нас перад неабходнасцю звароту ў міжнародны трыбунал у Гаазе".

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## Цэнзура з боку друкарні

Рэгіянальная недзяржаўная газета "Вольнае Глыбокае" падверглася цэнзуры з боку кіраўніцтва друкарні ў Маладзечне. Без дазволу рэдакцыі выразалі матэрыял, прысвечаны з'езду Партыі БНФ, які адбыўся 20 снежня.

Штотыднёвік, наклад якога складае 3,5 тысячы асобнікаў, выходзіць па-беларуску ў райцэнтры Глыбокае і распаўсюджваецца ў заходніх раёнах Віцебскай вобласці. З лютага мінулага года рэдакцыя перастала супрацоўнічаць з Наваполацкай друкарняй, бо яе не задавальнялі фінансавыя варункі. Газету пачалі друкаваць у Маладзечне.

13 студзеня гэтага года, калі рэкламны агент "Вольнага Глыбокага" Наталля Сядова прывезла ў маладзечанскую друкарню чарговы арыгінал-макет газеты, яе ўвагу звярнулі на матэрыял Ярослава Берніковіча "VII з'езд Партыі БНФ. У Сойме — фронтавец з Глыбокага". Гэты артыкул у друкарні прапанавалі замяніць на іншы і надрукаваць наклад пазней.

Улічваючы камерцыйныя інтарэсы выдання, пераносу даты выхаду чарговага нумара не адбылося. Тым не менш супрацоўнікі друкарні выразалі матэрыял Яраслава Берніковіча, а замест яго размясцілі на другой паласе газеты рэкламны блок з тэлефонамі рэкламнага аддзела газеты і подпісам "Тут магла быць ваша рэклама".

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

**КОНФЛИКТ**

# «Вы еще живы?»

Каким цинизмом должен обладать чиновник Октябрьской районной администрации г.Витебска, чтобы обратиться к голодающим второй день людям с такими словами.




Во вчерашнем номере "Народная воля" сообщала о бессрочной голодовке индивидуальных предпринимателей трех витебских рынков, переспециализированных властями в торговые центры: "Мишель", "Привокзальный" и "Днепровский". 4 февраля к акции протеста присоединились все остальные рынки города. Забастовка возникла хаотично, неожиданно как для властей, так и для профсоюзов. Но последние, в отличие от горисполкома, отреагировали быстро: руководство акцией сразу же приняла на себя предпринимательская организация РОО "Перспектива" **Анатолия ШУМЧЕНКО.**

Анатолий Шумченко приехал в Витебск в полдень 3 февраля. На месте не было врача, хотя о голодовке предпринимателей власти были оповещены (милиция на место прибыла), чиновники в течение двух суток так и не появились.

Анатолий Васильевич активно принялся за разрешение создавшихся коллизий: был найден доктор, проведено общее собрание бастующих. Бастует уже свыше тысячи индивидуальных предпринимателей Витебска, занятых в сфере торговли. Голодает, по разным подсчетам, от 27 до 30 человек. Одна женщина по требованию врачей прекратила голодовку, когда ей стало плохо. Собравшиеся в центре рынка "Мишель" вызвали карету скорой помощи, но та приехала только после третьего вызова, сделанного, по просьбе людей, милицией.

На собрании бастующих предпринимателей было решено поставить перед местной властью три из семи требований предпринимателей, которые надлежало исполнить в течение суток: отмена решений об изменении статуса торговых объектов и рынков (это решение приводит, по сути, к приравниванию ИП к юридическому лицу, что повлечет удорожание товаров на 110%), требование персональной ответственности за происходящее заместителя председателя Витебского горисполкома Яровикова и начальника отдела торговли, услуг и питания Левкович; требование прекратить конфискацию товаров по надуманным и формальным поводам.

С этими требованиями лидеры предпринимателей направились вместе с журналистами на встречу к начальнику Управления предпринимательства Витебского облисполкома **Валентину ЦВЕТКОВУ.** На реплики Анатолия Шумченко Валентин Цветков невозмутимо отпарировал: *"Что бы вы ни говорили, вы неправы. Ситуацией мы владеем целиком и полностью... Мы с вами встретимся, официальное заявление будет завтра... Но говорить нужно с теми, кто действительно что-то решает".* Из тех, кто что-то решает, в Витебске не оказалось никого! Только в восемь часов вечера 3 февраля голодающим объявили официальный ответ господина Яровикова: отмены решений об изменении статуса торговых пунктов в магазины и рынков в торговые центры не будет, если положение ИП ухудшилось, значит, так тому и быть.

Бастующие пытались связаться с депутатами Витебского городского Совета. Депутат Михаил Образов пообещал приехать, но так и не приехал. Депутат Борис Артемьев заявил, что у него есть дела поважнее, чем тридцать голодающих. На вопросы "Народной воли" о том, какие меры были предприняты Витебским городским Советом для предотвращения этого конфликта, согласился ответить прибывший на место депутат Станислав Ляховский. По его словам, был создан некий совет по содействию развитию предпринимательства, куда входили и ИП, и чиновники. Приведшие к таким последствиям решения городских властей обсуждались в горсовете довольно остро, но проблемы кроются не на местном, а на республиканском уровне, подчеркнул Станислав Томазович.

Из депутатов Палаты представителей отозвался генерал **Валерий ФРОЛОВ,** пообещавший оказать помощь предпринимателям. Своего представителя на место событий прислали социал-демократы Статкевича. Они пообещали устроить пикетирование здания Витебского облисполкома в знак поддержки бастующих.

**Антон ЛЮБИЧ.**
**Фото ByMedia.net**

**P.S.** *В 11 часов утра 4 февраля колонна бастующих (по подсчетам РОО "Перспектива", их около 1000) двинулась к Витебскому облисполкому, а Анатолий Шумченко и другие лидеры бастующих направились на переговоры к заместителю главы Витебского горисполкома Виктору Николайкину. Об итогах переговоров "Народная воля" сообщит в следующем номере.*

**РИГА—МИНСК**

*На днях в Риге состоится крупная международная конференция с участием влиятельных европейских политиков. На конференцию приглашены и белорусские политики, в том числе представляющие народную коалицию "5+". Один из участников форума* **Александр МИЛИНКЕВИЧ,** *руководитель белорусской ассоциации ресурсных центров, прислал нам текст своего выступления на конференции. С его фрагментами мы знакомим сегодня читателей "Народной воли".*

# Самоизоляции — нет!

## *Политика Евросоюза по отношению к Беларуси должна базироваться на развитии гражданского общества*

**Александр МИЛИНКЕВИЧ,**
**руководитель Белорусской ассоциации ресурсных центров**



После президентских выборов 2001 года многие программы европейских стран и США по поддержке гражданского общества были сокращены или даже частично приостановлены. Это отрицательно сказалось на динамике роста сектора неправительственных организаций (НПО) в Беларуси. Вместе с тем Запад и соседние страны должны выстраивать свою политику исходя из того, что Беларусь является долгосрочной, перспективной инвестицией, где нельзя рассчитывать на качественно быстрое улучшение сложившейся ситуации. К тому же поддержка белорусского гражданского общества не должна привязываться к очередным парламентским и президентским выборам.

### Демонстрация Евросоюзом перспектив для Беларуси

Ошибочным является мнение о "натуральном" стремлении Беларуси к своему восточному соседу. Недавнее социологическое исследование показало: 57% белорусов высказываются "за" союз с Россией, 68 — "за" вступление в Евросоюз. И если первая цифра — это результат многолетней государственной пропаганды, то вторая появилась вопреки ней.

Необходимо учитывать, что в стране в трудных недемократических условиях проходит внутренняя дискуссия о самоидентификации, нахождении Беларуси в Европе и направлении ее развития. Решения о будущем страны принимаются сегодня не обществом, а авторитарным режимом, непризнанным европейскими демократическими государствами.

Демонстрация Евросоюзом европейской перспективы для Беларуси должна стать контраргументом пропагандистскому клише "в Европе нас никто не ждет". При этом важны не только политические декларации о возможности дальнейшего расширения Евросоюза на Восток, а подкрепление данного тезиса целой гаммой неполитических сигналов, понятных широким слоям населения.

К тому же расширение программ Евросоюза по поддержке демократических преобразований в нашей стране на многочисленные проreформаторские и продемократические силы, а не только на политическую оппозицию имело бы больший мобилизационный характер, который, в свою очередь, способствовал бы скорейшей проевропейской трансформации нашего общества.

### Противодействие самоизоляции Беларуси

Ключевым вопросом является противодействие самоизоляции режима в Беларуси всеми доступными средствами и методами. Прогресс в этом направлении возможен при одновременном использовании нескольких каналов: НПО, дипломатии и официальной политики Евросоюза. Особую роль здесь должны сыграть соседи — Польша, Латвия и Литва. Они могут быть стратегическими партнерами объединенной Европы в разработке и реализации политики Евросоюза в отношении Беларуси. Основанием для этого могут служить общая многовековая история, традиции, близкий менталитет и широкие разветвленные общественные, культурные, политические и экономические связи.

Важным элементом в разрушении самоизоляции, на мой взгляд, является также вопрос свободного перемещения граждан Беларуси по Европе, особенно по соседним государствам — новым членам Евросоюза.

### Помощь, направленная на противодействие самоизоляции Беларуси

Помощь Евросоюза нашему обществу должна быть эластичной, поскольку ее эффективность в значительной степени зависит от учета специфики Беларуси.

### НПО

Несмотря на неблагоприятные условия, до 2001 года неправительственный сектор Беларуси имел устойчивую динамику развития. Развитие зачатков гражданского общества оказалось возможным и в условиях авторитарного режима. В условиях, когда контакты с Беларусью на государственном уровне ограничены, особое значение приобретают контакты на уровне общественном, где сконцентрирована большая часть будущей демократической элиты. Следует поддерживать гражданское общество, его инфраструктуру, обеспечивать его устойчивое развитие, содействовать сотрудничеству НПО с другими секторами и способствовать тем самым коалиционной работе. Приоритетом Евросоюза должны стать также долгосрочные международные партнерские программы в области локальной активности граждан.

### Профсоюзы

Попытки способствовать становлению демократических институтов в рабочей среде пока не принесли желаемых результатов. Более того, численность свободных и независимых профсоюзов в последние годы уменьшилась, их влияние ослабло. Но прекращать эту работу нельзя. Необходимо использовать потенциал профсоюзных объединений стран — членов ЕС и особенно новых его членов, поддерживать программы обмена, образования лидеров, стажировок.

### Местная власть

ЕС не должен избегать диалога с местной властью, в которой значительная часть номенклатуры настроена оппозиционно к существующему режиму, хотя официально об этом и не высказывается. В будущем эти люди могут сыграть ключевую роль в отношениях Беларусь — Евросоюз.

Следует поддерживать сотрудничество локальных властей с органами самоуправления Польши, Литвы, Латвии и Украины с целью изучения опыта локального развития, планирования, поддержки малого и среднего бизнеса, стажировок учителей, молодежных обменов.

### Образование

Один из важных методов противодействия изоляции Беларуси — инвестирование в будущую проевропейскую элиту. В первую очередь это послевузовское образование, а также разного рода стипендиальные программы для студентов по специальностям: экономика, политология, социология, менеджмент, правоведение, история, реставрация памятников культуры.

### Европиар

В Беларуси на сегодняшний день существует недостаточно информации о Евросоюзе, хуже того, она искажена официальной пропагандой, которая преподносит данную информацию в негативном аспекте. Крайне важно изменить сложившуюся ситуацию. Большую роль в этом могли бы сыграть посольства стран Евросоюза в Минске. Необходимо создать сеть центров, которые предоставляли бы информацию о Евросоюзе, его политике и программах помощи. Необходимо проводить европейские дни в областных городах, семинары в университетах с участием европейских экспертов и т.д.

**ЧОРНЫ ДЗЕНЬ КАЛЕНДАРА**

# «У той дзень, калі загінуў Сашка, у яго нарадзіўся дваюрадны брат...»

*Сёння смуткуюць па загінуўшым у Краснапольскай сярэдняй школе. Дзевяць дзён з дня трагедыі. Дзевяць дзён таму ў той злашчаснай школе, дзе абвалілася столь, урок фізкультуры стаў апошнім у жыцці для выкладчыка Пятра Васільевіча Любашэнкі, дзевяцікласніцы Анечкі Акішавай і дзесяцікласнікаў Віці Баброва і Сашы Прусава...*

...Дзень быў звычайны. Надзея Мікалаеўна Прусава як заўсёды разбудзіла сваіх хлопцаў-блізнят раней, каб тыя яшчэ паспелі крыху паваляцца ў ложку, сама прынялася гатаваць сняданак.

"Эх, Сашка, Сашка... Лайдак... — чамусьці ўспомніліся маці нядаўнія Сашкавы прагулы ўрокаў гісторыі і фізікі. — Чырваней затым за яго перад класным кіраўніком. Але ж характар такі, нічога не паробіш. Гэта ж не спакойны і ўраўнаважаны Юрка. На Сашы, як кажуць у народзе, заўсёды скура гарыць, ні хвіліны не можа пасядзець спакойна на месцы. Душа нараспашку. Хоць яны абодва такія цудоўныя ў мяне"...

Яна яшчэ раз палюбавалася на сваіх сыноў, якія ўжо шпарка апраналіся, і пра сябе ўсміхнулася: "Што-што, а фізкультуру Саша ніколі не прапусціць".

У дзіцячым садку Надзея Мікалаеўна затрымалася ненадоўга, адпрасілася злётаць, каб патэлефанаваць сваёй маці. Нагода і на самай справе была важкая — сястра з Магілёва нарадзіла сына. Хуценька патэлефанаваўшы, Надзея Мікалаеўна радасная прыбегла ў дзіцячы сад і... не паверыла. Усе наўкол плачуць, адводзяць ад яе вочы. Сэрца балюча зашчыміла. "Што здарылася?!" — "Надзея, ты толькі супакойся..." — "Здарылася што?!", — "У школе столь у спартыўнай зале абвалілася... Там і твае былі... Ты толькі супакойся, пакуль жа нічога невядома".

У школу яна мчалася, не чуючы пад сабой зямлі. Ля школы ўжо тоўпіліся людзі. Праз некалькі хвілін на насілках вынеслі Юрку. Сашы не было.

— Яны ніколі не расставаліся, заўсёды былі разам, — успамінае Надзея Мікалаеўна. — І, калі вынеслі толькі аднаго Юру, я адразу зразумела — напэўна, здарылася страшнае. Хоць верыць у гэта не хацелася. Я чакала цэлы дзень. Спадзявалася як магла. Думала: "А можа, дзе-небудзь бэлька завісла, а Саша выбрацца з-пад яе не можа... Можа, дзе ў кут зашчыміўся"... Каля сямі гадзін вечара мае надзеі і надзеі бацькоў 15-гадовай Анечкі былі пахаваны.

І Юра, і Анечка, і Віця былі вельмі спартыўныя дзеці. Людзі ціха гаварылі: "Бачыце, як атрымалася. Юрый Васільевіч забраў з сабой усіх сваіх спартсменаў..."

Надзея Мікалаеўна гадавала сыноў адна. Так склалася, што з мужам яны разышліся, але адзін час Юрка хацеў ехаць да бацькі ў Мінск, думаў паступіць у вучылішча пры трактарным заводзе. Пасля вырашыў з Сашам падацца ў Магілёўскі тэхналагічны каледж.

"Танцы, вечарынкі — гэта было не для Сашы з Юрам, — працягвае іх маці. — Больш цікавіліся камп'ютэрам, рознымі іграvымі прыстаўкамі. І хоць жылі мы сціпла, заўсёды ўсё дзялілі на траіх. Нават цукерачку якую падараць камусьці з сыноў — і тую разрэжуць на тры часткі".

— За што ж нам такое! — бабуля Юры і Сашы Кацярына Ільінічна да гэтага часу не можа адысці ад гора. — І як мы цяпер будзем жыць, я не ведаю. Я ж сваіх унучкаў любіла і люблю больш за родных дзяцей"...

**Алесь СІВЫ.**
**Фота Сяргея ІВАНЕЎСКАГА.**

*г.п. Краснаполле.*

*У вестыбюлі школы, дзе адбылася трагедыя, фотаздымкі загінуўшых вісяць да гэтага часу.*

*Брата ў Юры Прусава больш няма — засталіся толькі маці (злева) і бабуля.*

## Чым выкліканы зацішак на «газавым фронце»?

***Што адбываецца на "газавым фронце?" Калі будзе заключана пагадненне па пастаўках у краіну блакітнага паліва? Па якой цане прадасць яго Расія?***

Пытанні важныя, яны турбуюць грамадскасць. Але адказаў няма. Ёсць толькі звесткі, што газ пастаўляе ў лютым расійская кампанія "Ітэра". Яго малавата. Наконт цаны нічога невядома, бо бакі ўхіляюцца ад прамых адказаў на пытанні журналістаў.

Такі зацішак на "газавым фронце" ўзнік пасля таго, як на адной з нарад Аляксандр Лукашэнка зазначыў, што абстаноўка ў энергетычнай сферы, якую нагнятаюць сродкі масавай інфармацыі, не адпавядае рэчаіснасці. Відаць чыноўнікі вырашылі, што лепш будзе не раскрываць ход перамоў. Некаторыя ж аналітыкі лічаць, што ўладам і чыноўнікам проста няма чаго гаварыць. Да гэтага ж сцвярджалі, што хутка дамова з "Газпрамам" будзе падпісана, што асаблівых праблем з ёю няма. Аказалася, яны ёсць і не малыя.

Нарэшце, улады і афіцыйныя прапагандысты доўга і шмат гаварылі пра дружбу з Расіяй, пра тое, што яна пастаўляе нам танныя энерганосьбіты. Аднак аказалася, што яна ўжо не хоча іх пастаўляць па льготных тарыфах. Больш таго, жорсткія патрабаванні "Газпрама", шантаж з адключэннем газавай трубы паказалі, што блакітнае паліва можа быць не толькі працягнутай рукой дапамогі з Усходу, але і моцнай зброяй. Так што ўсё гэта не надта падмацоўвае тэзісы аб бескарыслівай дружбе.

Нельга не звярнуць увагу на прыезд высокапастаўленых візіцёраў з Масквы спадароў Іванова і Рушайлы. Якая мэта наездаў? Ці не ўстрывожылі Маскву магчымыя беларускія меры ў адказ? Ці не спрабуюць яны з дапамогай "газавага ціску" яшчэ мацней прывязаць нашу краіну да сваёй імперыі?

Так гэта ці не, пакажа час. Пакуль можна толькі здагадвацца, што газавая праблема, відаць, не стала менш трывожнай. Проста пра яе перасталі публічна гаварыць.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Святкуюць беларускія мусульмане

Канец студзеня — пачатак лютага багаты на вялікія святы для ўсіх мусульман. Тут і Дзень Арафа, перадапошні дзень хаджа (паломніцтва) у Мекку і Медыну, у якім удзельнічалі і вернікі з Беларусі. Затым — Курбан-Байрам, свята ахвярапрынашэння. І яшчэ адно: споўнілася дзесяць гадоў, як створана беларускае рэлігійнае аб'яднанне мусульман.

З нагоды гэтых святаў 4 лютага ў мінскім Доме ветэранаў адбылася ўрачыстая вечарына. Прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў многіх краін мусульманскага свету і ўсіх рэлігійных канфесій у нашай краіне, прадстаўнікі ўрада, кіраўніцтва Партызанскага раёна г.Мінска, многіх грамадскіх аб'яднанняў.

Вечарына пачалася чытаннем свяшчэнных радкоў Карана і ўшанаваннем памяці братоў і сясцёр, загінуўшых падчас апошняга хаджа ў далёкай Саудаўскай Аравіі.

З урачыстым словам аб шануемых мусульманамі святах і дзейнасці рэлігійнага аб'яднання выступіў муфцій беларускіх мусульман Ісмаіл Александровіч. Ён выказаў падзяку і ўручыў адпаведныя лісты з сувенірамі тым, хто стаяў ля вытокаў адраджэння мусульманскай канфесіі, нацыянальнага згуртавання ў Беларусі і хто дапамагаў гэтай важнай справе.

Сярод уганараваных былі дактары гістарычных навук, прафесары Анатоль Грыцкевіч і Леанід Лыч. Слова для прывітання атрымалі ўсе жадаючыя. На гэтай па-хатняму цёплай, братэрскай вечарыне гаварылася аб тым, што даўнюю традыцыю нашых продкаў, якія па-добрасуседску, у сяброўстве жылі на беларускай зямлі разам, нягледзячы на прыналежнасць да розных веравызнанняў і нацыянальнасцяў, трэба працягваць і мацаваць.

Усім спадабалася выступленне ўдзельнікаў нядзельных рэлігійных школак з Мінска і іншых рэгіёнаў Беларусі, а таксама суполак з Гомеля і Віцебска, якія парадавалі яркасцю і нацыянальнай адметнасцю свайго мастацтва.

**Мікола ЛАВІЦКІ.**

Народная Воля

5 ЛЮТАГА 2004 г.

ГАСЦІНАЯ

# Сямейны рокер Лявон Вольскі

***Лідэр папулярнага гурта «N.R.M.», сын вядомага беларускага паэта Артура Вольскага — Лявон Вольскі не любіць гаварыць пра асабістае жыццё. Аднак для «Народнай волі» ён зрабіў выключэнне.***

— Я доўгі час увогуле не адказваў на такія пытанні, — прызнаецца Лявон. — Гэта было выклікана нейкай падлеткавай боязззю, што, калі мае фэны даведаюцца, што я чалавек сямейны, то частка з іх адвернецца. Сёння я разумею, што гэта абсалютна бязглуздыя рэчы. Я чалавек свецкі, і трэба, каб людзі ведалі пра мяне болей. Але, з другога боку, калі чагосьці не ведаць, можна дамысліць. Тады для кожнага аматара маёй творчасці я буду свой.

**— Таму Вы пазбягаеце казаць, колькі Вам гадоў? Хаця, здаецца, хаваць свой узрост — чыста жаночая рыса.**

— І сцэнічная таксама. Шмат якія артысты не афішуюць свой узрост і канцавуюцца недзе каля 38.

**— А Вам колькі?**

— 38.

**— Як даўно Вы жанаты?**

— 5 гадоў. Аня — прадзюсер і пастаноўшчык шоу. Праўда, паводле адукацыі яна сацыяльны педагог, але гэтым ніколі не займалася. Адразу пасля інстытута працавала ў рэкламным аддзеле беларускамоўнай FM-станцыі 101,2. А потым стала менеджэрам "N.R.M.", з яе дапамогай былі зроблены шоу "Радыё гамон" і "Падарожжа на возера трох чарапахаў". Такіх акцый дагэтуль у беларускай рок-музыцы не было. Сёння Аня цалкам займаецца "Крамбамбуляй".

**— А як Вы пазнаёміліся?**

— Я працаваў дзі-джэем на Радыё 101,2. І звярнуў увагу на дзвюх прыкметных дзяўчат з рэкламнага аддзела. Гэта была Аня і яе сяброўка Вольга Сарако, яна зараз дырэктар рэкламнага агенцтва "Пінгвін". Высокія, чарнявыя, у доўгіх паліто, яны зачароўвалі кліентаў, і тыя адразу давалі рэкламу, чым забяспечвалі нармальнае існаванне нашаму радыё. Аднак пасля адзіную беларускамоўную FM-станцыю зачынілі.

Сімпатыя да Ані ўзнікла адразу, але мне не хацелася ў гэтым прызнавацца. Хацелася думаць, што гэта нешта платанічнае. Аднак, як часта здараецца, пачуцці — гэта тое, што па-за кантролем.

**— У гэты ж час Вы жылі ў грамадзянскім шлюбе з Касяй Камоцкай?..**

— Гэта быў вельмі цяжкі перыяд майго жыцця. У мяне з Касяй шмат было звязана і ў асабістым, і ў творчым плане, мы разам ігралі ў "Новым небе". А тут давялося ўсё гэта руйнаваць.

Доўгі час мяне адольвалі нейкія ўзгадкі, настальгія. І разам з гэтым трэба было пачынаць новае жыццё. У рэшце рэшт усё прайшло. Я зразумеў, што з Касяй скончылася ўсё таму, што папросту час прыспеў. Я чалавек не схематычны, не будую схемы свайго існавання. Так атрымалася...

**— Які час Вы жылі паміж дзвюма жанчынамі?**

— Не вельмі доўга, месяцы тры. Я не такі чалавек... Я сказаў Касі, што мне трэба сысці з яе жыцця... Яна, безумоўна, не ўзрадавалася.

**— Цікава, што адчувае мужчына, які займае галоўнае месца ў любоўным трохкутніку, і калі трэба зрабіць такі цяжкі выбар?**

— Гэта як на вайне. Тут пачуцці як бы на другім плане, цябе папросту нясе. І гэта страшна так, як, напрыклад, калі пачынаеш кіраваць аўтамабілем. Спачатку баішся: як гэта я сяду, як паеду? А калі ўжо апынуўся на дарозе, страх адступае. Ты пастаўлены ў такую сітуацыю. Тое ж самае было і са мною.

**— Сёння падтрымліваеце з Касяй адносіны?**

— Калі іграем супольныя канцэрты. Па магчымасці, ставімся адзін да аднаго... ва ўсялякім выпадку мы не ворагі, спрабуем быць вышэй гэтага... Я не скажу, што ў нас стасункі сяброўскія, у кагосьці засталася крыўда. Але гэта не павінна адбівацца на творчасці. Было б няправільна, напрыклад, пазбавіць аматараў музыкі праекта "Народны альбом" толькі таму, што хтосьці з кімсьці разышоўся.

**— Вы чалавек улюблівы?**

— Я даволі правільны чалавек. Мой бацька быў не вельмі верны адной жанчыне. Праз маё жыццё таксама не адна жанчына праходзіла, але, паводле досведу, я ўсё ж такі доўга з Аняй і спадзяюся, што наогул наш саюз вельмі надоўга. Хаця нейкія платанічныя рэчы бываюць і нават не без думак пра іншае. Але далей думак не ідзе. Праўда, гэта вельмі добра для творчасці.

**— А з вядомай спявачкай Веранікай Кругловай рамана не было? Калі ў снежні у Мінску з'явіліся афішы канцэрта "Святы вечар", Вы з Веранікай былі побач, у абдымку. Многія адразу прыпісалі Вам калі не раман, то вельмі цесныя адносіны. Тым больш Вераніка зараз жыве адна і называе сябе вельмі прывабнай нявестай.**

— Такія плёткі ўвесь час ходзяць. Справа ў тым, што мы з Веранікай настолькі даўно ведаем адзін аднаго і так даўно супрацоўнічаем, што гэта было б абсалютна смешна, калі б паміж намі ўзнікла нешта большае. Але хай людзі думаюць...

**— Ганна — раўнівая жанчына?**

— Яна робіць выгляд, што не.

**— Бывае, што сварыцеся з жонкай і не размаўляеце?**

— Сварымся. Але не б'емся. (*Смяецца.* — **М.Э.**)

Наш саюз пабудаваны на прынцыпах свабоды. Гэта і мінус, і плюс, што мы не робім схемы. Аднак, калі мы нешта пачынаем планаваць, нічога не атрымліваецца, жыццё адразу гэта раўнуе. Нават звычайную паездку. Нам лепей удаюцца нязручныя, творчыя рэчы. Напрыклад, зрабіць шоу ў гасцях.

Мы не любім традыцыйна збірацца за сталом і ўжываць нейкія напоі. У нас ёсць свая кампанія, і мы робім крэатыўныя вечарыны. Напрыклад, нядаўна ў нас была азіяцкая вечарына, калі мы прыбіраліся ў розныя ўсходнія касцюмы і гатавалі адпаведную ежу... А ўсё пачалося з нашага вяселля, калі на другі дзень мы запрасілі сяброў на лецішча Ані і прапанавалі цікавую гульню. Падзялілі гасцей на дзве каманды — партызан і фашыстаў — і шукалі ў лесе сцягі...

**— Лявон, як адчувае сябе мужчына, калі яго жонка прылюдна прызнаецца, што яе муж — адзіны чалавек, з якім яна адчула сябе сапраўднай жанчынай?**

— А Аня прызнавалася ў гэтым?

**— А Вы не здагадваецеся, чые гэта словы?..**

— Калі яна так сказала, то, можа, так і ёсць... Я адчуваю лёгкую ніякаватасць. Я наогул не люблю, калі мяне прылюдна пачынаюць хваліць, прызнавацца ў пачуццях. Я і сам не люблю шчыраваць, толькі пад ўздзеяннем алкаголю.

**— А яшчэ Ганна казала, што побач з ёю "вельмі таленавіты чалавек, які ставіцца да свайго таленту зусім звычайна, без гонару". Вы сапраўды такі станоўчы герой?**

— Можа, і станоўчы, але ў гэтым мне вельмі дапамагла Аня. Тыя рысы, якія былі ўва мне як бы парасткамі, пасля знаёмства з ёю прачнуліся. І я сапраўды зрабіўся тым, хто ёсць. І ў творчым сэнсе таксама.

**— Мне здаецца, рок-музыканта Вольскага ведалі і раней?**

— Я не хачу раскідвацца вялікімі словамі, але, напэўна, ува мне ёсць тое, што называецца здольнасцямі, талентам. Я малюю, пішу вершы, прозу, музыку. Але шмат таленавітых людзей у Беларусі займаюцца тым жа самым, займаюцца добра, але ніхто пра гэта не ведае і ніколі не даведаецца. Я раней вельмі часта пра гэта думаў... Пасля вырашыў: так мусіць быць. На лёс наракаць — гэта апошняя справа. Можа, у пэўны момант трэба патрапіць у пэўную сітуацыю, каб цябе куды-небудзь вынесла. Але мы знаходзімся ў адной з самых цяжкіх краінаў на ўсёй тэрыторыі так званага СНД. І з пункту гледжання бізнесу, і з пункту гледжання чалавека, які займаецца пісьменніцтвам, музыкай.

**— Вам музыка дае грошы на жыццё? Хапае, каб набыць, напрыклад, дарагую кватэру, машыну?**

— Пра кватэру мы якраз і думаем. У нас ёсць свая, але яна вельмі малая. А ў нас падрастае дачка, Адэлі ўжо пяць годзікаў.

**— Як выхоўваеце сваю дачку? Яна жыве з адчуваннем таго, што род Вольскіх — гэта частка гісторыі Беларусі, яе культуры, што ваша сям'я асаблівая?**

— Мне хочацца верыць, што Адэля ніколі не будзе хваліцца тым, што яна ўнучка вядомага паэта, дачка папулярнага спевака. Адэля амаль з маленства прызвычаілася бачыць мяне ў тэлевізары, у газетах. Яна ведае, якія вершы напісаў яе дзед. Яна ўспрымае гэта як належнае.

**— А як праходзіла Ваша дзяцінства?**

— Маё дзяцінства было і лёгкае, і цяжкае. Living Рознае. Калі мне было 5 гадоў, мае бацькі развяліся. І я жыў паміж двух агнёў. З большага, канешне, з мамай. Але яна час ад часу ездзіла ў камандзіроўкі, і тады я перабіраўся да бацькі. Кожнае лета з бацькам мы ездзілі ў Крым.

**— Казалі, што Вы доўга не маглі дараваць свайму бацьку, што ён сышоў ад Вашай маці...**

— Нічога такога не было. Іх развод адбываўся на маіх вачах, я падсвядома разумеў, што тут ніхто не вінаваты, ці, наадварот, вінаватыя ўсе.

Калі бацька сыходзіў да пэўнай жанчыны, то ладу ў сям'і ўжо не было. Разлад пачаўся арганічна. Сітуацыя набрыняла, набрыняла, ніткі, якія звязвалі саюз, рваліся...

**— Бывае, некаторыя сем'і жывуць разам выключна дзеля дзяцей, хаця скончыліся каханне, страсць...**

— Але гэта не ў варыянце з маёй сям'ёй... Ёсць мужчыны, якія ўвесь час глядзяць на іншых жанчын і кахаюць адразу дзвюх, а то і трох. Але мой бацька і я — не з іх ліку.

Безумоўна, мне вельмі хацелася, каб бацькі былі разам. Калі мне было гадоў 10—14, я чакаў выхадных дзён, бо ўжо ў пятніцу вечарам ехаў да бацькі. Мяне цягнула да яго. Пагаварыць, пабыць побач. Я сябраваў з Сярожам — сынам яго жонкі ад першага шлюбу. Мы прыдумвалі крэатыўныя гульні, выпускалі дзіцячую газету, раскідвалі яе па паштовых скрынях і пісалі: "Калі хочаце і далей атрымліваць газету, то пакіньце пад тым ці тым камянём цыдулку". Мы напісалі мастацкі твор, прыдумалі сваю краіну, у якой жылі жабападобныя істоты...

У мамы ў асабістым жыцці быў цалкам разлад, і яна рэалізоўвала сябе ў творчасці. Усе свае перажыванні, згрызоты пераносіла ў творы.

**— Лявон, Ваша прозвішча давала Вам якія-небудзь прывілеі? Можа, адзнакі ў школе падвышалі?**

— Не. Калі я паступаў ў мастацкае вучылішча, меў у атэстаце тройку па беларускай мове. Нягледзячы на тое, што мой бацька — вядомы літаратар.

У нас настолькі пагана выкладалі ў школе беларускую мову! Спачатку ў 4—5-х класах была вельмі добрая настаўніца, я нават памятаю, як яе звалі — Леакадзія Гар'еўна. Яна жыла моваю, і нам таксама гэта перадавала. А потым яна сышла, з'явілася іншая настаўніца, якая толькі адбывала час на працы. І гэта была катастрофа! Мы адносіліся да беларускай мовы, як да спеваў. Ніхто не займаўся ёю, і я таксама.

**— Сорамна не было?**

— За тройку бацька даў дык даў!..

Адчуванне, што беларуская мова неабходная, прыйшло, калі мне споўнілася 16 гадоў. Мы пачалі рабіць "Мрою" і вырашылі, што рабочай мовай будзе беларуская. І ўсе кінуліся яе вучыць. Мне гэта далося вельмі лёгка.

Я, дарэчы, не быў ініцыятарам "Мроі". Як адказная асоба я позна сфарміраваўся. На той час я ішоў па плыні і ўсяго дамагаўся сваімі здольнасцямі.

**— Сёння Лявон Вольскі больш хто: мастак, спявак, паэт?**

— Усё разам. Я асоба зменлівая. І гэта ёсць мая адметная рыса. Хаця зараз для мяне галоўнае — рок-музыка.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## Развод стоил Форду 90 млн. долларов

***Голливудская звезда Харрисон Форд, известный по фильмам "Звездные войны", "Сабрина", "К—19" и другим, и его бывшая жена урегулировали развод за рекордную сумму. В результате Мелисса Мэтисон получит 90 млн. долларов.***

Такая сумма невероятна даже для Голливуда, где дорогостоящие разводы — обычное дело. 53-летняя Мэтисон получила право на доходы от ролей Форда, сыгранных им во время их совместного проживания в браке.

ОН И ОНА

## Разводятся везде

Не только наша страна ставит рекорды по разводам. По статистике, в Беларуси на 1000 человек приходится 6,6 развода.

Любопытно другое. Даже самые благополучные страны мира имеют самые высокие статистические показатели разводов. Судите сами:

**I место** — *США (21,8 развода на 1000 человек);*
**II место** — *Дания (14,6);*
**III место** — *Швеция (12,0);*
**IV место** — *Австрия (11,3).*

Как видите, Соединенные Штаты (очень религиозные и богатые экономически) всех переплюнули по числу разводов.

Однако справедливости ради заметим, что по соседству с нами существуют и такие страны, где разводы, так сказать, не в моде. А именно:

* в Бельгии (0,5 развода на 1000 человек);
* в Англии (4,8);
* в Канаде (3,9).

Словом, развод — это явление не уникальное, поэтому, разводясь, вы вовсе не совершаете ничего экстраординарного.

## Женщины страдают больше, мужчины — дольше

Мужчины поначалу выказывают меньше эмоций, но страдают дольше — в среднем до двух лет. И чтобы поскорее прекратить этот период "психологической ломки", скорее стараются заключить новый брак.

А все потому, что мужчины, опекаемые в браке, разведясь, становятся как бы "бесхозными". Они начинают испытывать не только заметные бытовые трудности, но и ощутимый эмоциональный дискомфорт от одиночества.

Женщина после развода обычно остается не одна, а с ребенком, и поэтому чувствует себя не столько одинокой, сколько брошенной. Вот почему она страдает больше непосредственно сразу после разрыва, но зато оправляется быстрее. Кстати, то обстоятельство, что женщина остается с ребенком, который тоже тяжело переживает разрыв родителей, еще больше усугубляет ее эмоциональное состояние — ведь она как мать должна смягчить тот стресс, который вместе с бывшим мужем нанесла своему сыну или дочери.

## Жизнь после развода

Вот, для примера, европейская статистика. Около 28% всех семей возглавляет женщина без мужа. Более чем каждая вторая из них живет одна со своими детьми и более 80% имеют любимого человека, с которым, однако, не спешат регистрировать брак. Большинство женщин утверждает, что их и так устраивает. Часть опасается, что у нового мужа могут не сложиться отношения с ребенком. И лишь небольшая часть женщин боится вступать в следующий брак, поскольку чересчур тяжело перенесла развод в предыдущем.

БАЦЬКАМ

## Колькі грошай даваць дзецям?

***"Важна своечасова навучыць дзіця рацыянальна распараджацца грашыма. Дзеля гэтага трэба паступова, пачынаючы з маленькага ўзросту ўводзіць яго ў свет грошай, свет пакупак", — лічыць псіхолаг Ірына БАРЫСЕНКА.***

**— Ірына, з чаго б Вы раілі пачынаць?**

— Статус, які дзіця мае ў сям'і, прадугледжвае роўнасць і ўзаемапавагу. Калі дзіця мае свае грошы (мы зараз не кажам пра іх колькасць, мы кажам пра выдзеленыя грошы як пра факт), яно адчувае, што з ім лічацца і яго паважаюць. Павышаецца значнасць дзіцяці, ён адчувае гэтую значнасць, упэўненасць у сабе. У дзіцяці, якое мае свае ўласныя грошы, з'яўляецца выбар — ён можа набыць за іх якія-небудзь прысмакі, цацачку, а можа назбіраць на падарунак для маці. Першы грашовы вопыт у малых дзетак, як правіла, памылковы. Што трэба сказаць у такім выпадку? "Усе памыляюцца. Але ў наступны раз ты ўжо будзеш ведаць, што на гэтую рэч нявартa траціць грошы, ты будзеш ведаць, што табе патрэбна купіць".

**— На Ваш погляд, з якога ўзросту трэба выдзяляць дзіцяці кішэнныя грошы?**

— Гадоў з пяці-шасці. Найбольшае значэнне кішэнных грошай у гэтым узросце — усведамленне дзіцём таго, што ён можа чымсьці распараджацца. Канешне, грошы дашкалят будуць зберагацца хутчэй за ўсё ў маці, ва ўласным дзіцячым кашалёчку. І калі яны пойдуць у краму і дзіця скажа: "У мяне ёсць тысяча, я хачу набыць сабе чупа-чупс", то маці адкажа: "Добра. Але ў тваім кашалёчку застанецца ўжо меней грошай". Тут вельмі важны момант: бацькі ўводзяць малое ў свет пакупак, у свет прыняцця самастойных рашэнняў. Што датычыць таго, як часта даваць маленькім дзеткам грошы, то тут няма вызначанай схемы, правілаў. Гэта, як правіла, падарункавыя грошы ад бабуль і дзядуль.

Асабліва важна наяўнасць кішэнных грошай для падлеткаў. Ім хочацца адчуваць сябе незалежнымі. Я не кажу пра вялікія сумы, таму што кішэнныя грошы не прадугледжваюць вялікіх лічбаў, на то яны і кішэнныя. Але, натуральна, гэтае паняцце фарміруецца і залежыць ад матэрыяльнага становішча сям'і.

Я перакanaна, што дзеці павінны ведаць фінансавы стан сям'і, каб разлічваць свае запыты (важна, каб дзіця навучылася бачыць розніцу паміж неабходнымі рэчамі і прыхамаццю). Не трэба інфармаваць дзіця, дзе і на што бацькам не хапае. Гэта — праблемы дарослых. А ў дзіцяці можа развіцца з-за гэтага комплекс віны.

**— А як ладзіць грашовыя стасункі з дзецьмі-студэнтамі?**

— Студэнтаў можна падзяліць на дзве катэгорыі: тых, хто атрымлівае стыпендыю, і тых, хто не. І першыя, і другія маюць права на грашовае ўтрыманне ад бацькоў. Студэнтам трэба даваць агульную суму на два тыдні альбо месяц, інакш кажучы, пэўную суму на пэўны тэрмін. Малады чалавек павінен сам выбіраць: альбо ён гэтую суму траціць за адзін дзень, альбо расцягвае на пэўны тэрмін. Умоўна кажучы, ён можа ездзіць на тралейбусе альбо маршрутцы. І калі грошай нестае, студэнт можа знайсці невялічкую працу.

**— Калі, скажам, дзіця правінілася, ці правільна будзе пазбавіць яго грошай?**

— Я заўзяты праціўнік таго, каб плаціць дзецям грошы за адзнакі.

**— А ў некаторых сем'ях дзецям плацяць яшчэ і за вымыты посуд ці выдраеную падлогу...**

— Я лічу такую мадэль сямейных узаемаадносін недэмакратычнай. Адносіны ў сям'і грунтуюцца на правах і абавязках усіх членаў сям'і, у тым ліку і дзяцей. Гэта зусім не азначае, што ўсё трэба "вешаць" на дзіця, але, скажам, чаму б яму не сачыць за вядром для смецця, мыць посуд у абед... Цалкам нармальная рэч.

Я не супраць грашовых заахвочванняў, але я супраць непасрэднай платы. Можа быць сістэма нейкіх умоўных жэтонаў. Напрыклад, ваша дзіця добра вучыцца, дапамагае, адпаведна, за пэўны тэрмін набірае пэўную колькасць жэтонаў. Умовы абмяркуйце папярэдне, напрыклад, за такія і такія ўчынкі будзе 500 рублёў, за іншыя — 800. Возьмем сітуацыю — канец чвэрці. Добрая нагода заахвоціць старaннае дзіця. Бацькі кажуць: "Ты штосьці хочаш, пра штосьці марыш. Мы пойдзем з табой і купім табе гэтую рэч". Такая ідэя добрая і для сярэдняй, і для старэйшай школы.

У малодшым узросце за добрыя ўчынкі ці справы дастаткова бацькоўскай пахвалы, захаплення, эмоцый, што ідуць ад чыстага сэрца. Канешне, пакупкі таксама могуць быць. Але не прывязаныя да пэўных вынікаў (канца чвэрці і г.д.) і не ў падобным стылі, маўляў, калі ты будзе добра вучыцца, я куплю табе красоўкі. Больш слушна будзе заўважыць: "Ты вельмі стараешся. У цябе так добра атрымліваецца, мне так прыемна, што цябе хваляць. Мне хочацца зрабіць табе падарунак". Гэта можа быць паход у "Макдональдс".

**Міраслава МІРАНОВІЧ.**

## Почти все ведущие ОНТ не замужем

***На этой неделе все выпуски "Наших новостей" на втором белорусском канале будут вести женщины. Их выбирали из более чем 600 претендеток, приславших свои фотографии на кастинг.***

Из шести женщин замужем только две — **Ирина Полянская** и **Ольга Полякова**. К тому же последняя — мама троих детей, младшей доченьке Ольги только три года. В свое время ведущая ОНТ окончила Минский мединститут и клиническую ординатуру по терапии, работала врачом-гомеопатом. На вопрос "ваши недостатки?" Ольга ответила: "Предъявляю завышенные требования к себе и окружающим. Но с этой "бедой" мне помогает справиться любимый муж".

Незамужняя **Наталья Немогай** сразу стала ведущей нового проекта ОНТ "Наше утро". В кадре она работает с **Валерием Кащеевым** (оба на фото), тоже, между прочим, холостяком. В свое время, когда Валерий пришел работать на ОНТ, коллеги поинтересовались, почему у него нет дамы сердца. И Кащеев философски заметил: "Я — неисправимый фаталист". Может, он встретит свою судьбу на передаче "Наше утро"? Как заметили телезрители, уже в первом выпуске новостей Валерий слегка кокетничал с очаровательной Натальей. Хотя, говорят, у нее есть поклонник. Впрочем, Наталья не любит рассказывать о своей личной жизни.

**Татьяна Рудаковская** и **Калина Вардомская** тоже не связаны брачными узами. И обе признаются, что на ОНТ проявят себя в полной мере. А **Елена Акуленок**, отвечая на вопрос анкеты "какие у вас преимущества перед другими кандидатками?" ответила: "Жизненный опыт и навыки актерской профессии". До того как попасть на ОНТ, Елена работала педагогом в Университете культуры. Она одна воспитывает дочь.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЛИЧНЫЙ ОПЫТ

# Гарант на горшке,

## или О том, как меняется жизнь мужчины после рождения ребенка

*Забавную формулировку о том, что если мужчина родил сына, значит, он обрел бессмертие, многие слышали в одном из российских телесериалов. Истинность и житейскую мудрость этой формулировки я ощутил на собственной шкуре 15 ноября 2002 года — в день, когда родился мой первенец Женя. Продолжаю чувствовать эту истину и по сей день. В любом случае жизнь человека, решившего последовать моему примеру и произвести на свет еще одного гражданина Беларуси, изменится почти на 100 процентов. И это он должен знать!!!*

**Во-первых,** вам больше не надо мучиться и решать, чем занять себя вечером — то ли пойти с подружкой в театр, то ли с друзьями — в бар, то ли отдаться перечитыванию последнего тома полного собрания сочинений Франца Кафки. Теперь у вас одна дорога с работы. И это дорога домой. И там вас с нетерпением ждут ваши новые неразлучные друзья — стиральный порошок, средство для мытья посуды, хозяйственное мыло и пылесос.

**Во-вторых,** у молодого отца в голове происходит определенный сдвиг ответственности. Что это означает? Неожиданно вы забываете, сколько часов вы недоспали прошлой ночью, когда купили себе новые носки, какая у вас сейчас температура. На первое место начинает выходить температура гаранта вашего бессмертия, на второе — сходил ли этот гарант вовремя на горшок, и на третье — хватит ли у вас в доме памперсов на ближайшую неделю.

**В-третьих,** нью-папаша очень скоро после вступления в свой почетный статус перестает удивляться тому, что ваш паспорт окажется в туалете, альбом с фотографиями — в кухонной раковине, а на вашем рабочем столе вместо творческого беспорядка будет красоваться кастрюля с набором вилок. Вещи в вашем доме вскоре после появления в нем ребенка обретут ноги. Причем очень быстрые.

**В-четвертых,** как утверждает, например, моя жена Алла, после рождения Жени я помолодел. Видимо, ограничение круга общения и, что наиболее важно, его значительное омоложение напрямую влияют и на собственное мироощущение молодого папаши. Чаще в голове возникают философские мысли о смысле жизни, о бренности и краткости бытия, еще чаще — воспоминания из детства собственного. Меняются и запахи, исходящие от мужчины. Если раньше в этой гамме запахов превалировали привычные запахи стадиона, пива, табака, косметики любимой женщины, то теперь это — запах пеленок, детского крема и каши "Бэби".

**В-пятых,** как отмечают мои родственники, после рождения ребенка я стал намного более внимательно и бережливо относиться к своим собственным родителям, стал больше им помогать и заботиться о них. Видимо, чтобы человек понял, насколько он обязан своим родителям, ему нужно стать родителем самому.

**В-шестых,** будущий отец должен подвергнуть значительным реформам свой личный бюджет. Он, этот бюджет, уверяю вас, для него изменится отнюдь не в сторону увеличения. И походы в привычные отделы — хлебный, колбасный, мужской одежды и винно-водочный — в магазине очень быстро поменяются на регулярные посещения магазина игрушек, отделы детского питания и детской одежды. Но у этого, как утверждает моя жена, есть и положительные, я бы сказал, оздоравливающие аспекты. Я стал меньше пить пива, зато больше двигаться — в поисках более дешевых каш, соков, а также памперсов.

И, наконец, **в-седьмых,** ощущение бессмертия, возникающее у молодого отца после ежедневного заглядывания в глаза любимого чада, помогает ему мужественно и даже с радостью терпеть все связанные с появлением этого чада невзгоды — бессонные ночи, невовремя испачканные ползуны или вдребезги разбитую любимую кружку.

**Александр СИЛИЧ.**

